# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 9 (574) ГОД XII 26 ЛЮТАГА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


У НУМАРЫ У НУМАРЫ



## БГКТ

### ПЛЕНУМ АДДЗЕЛА

10 лютага пленарнае пасяджэнне Гарадскога праўлення аддзела ў Беластоку было прысвечана наступным справам: а) зацвярджэнню плана працы на першае паўгоддзе 1967 года, б) падзелу абавязкаў сярод членаў пленума. План дзейнасці аддзела выпрацаваў раней прэзідыум праўлення. Аб гэтым плане і аб змесце мы ўжо інфармавалі чытачоў у 4(569) нумары «Нівы».

Пасля шырокай абмяркоўкі і ўнясення некаторых паправак план працы быў зацверджаны.

Каб паспяхова рэалізаваць прыняты план працы, пленум паклікаў 6 камісій. І так, 1) камісію арганізацыйную ўзначаліў Уладзімір Куршэль, 2) камісію вечарын — Мікалай Яроцкі, 3) камісію выставак — Васіль Літвінчук, 4) камісію фільмаў (яе арганізацыйнае заданне — забеспячэнне высвятляння савецкіх фільмаў) — Уладзімір Навіцкі, 5) камісію конкурсаў — Вера Валкавыцкая, 6) камісію дэкарацыйную — Віктар Лаўрэшук.

### СУСТРЭЧА З М. БАРАВІКОМ

12 лютага ў перапоўненай чытальнай зале Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку былы дзеяч ППР, Міхась Баравік, расказваў прысутным аб ролі ППР у перыядзе станаўлення народнай улады на Беласточчыне. Пасля сустрэчы быў высветлены савецкі фільм.

### ПАСЯДЖЭННЕ НАВУКОВАГА ГУРТКА

12 лютага сабраліся члены навуковага гуртка, які існуе пры ГП БГКТ, каб абмеркаваць галоўныя напрамкі зместу будучага чарговага навуковага зборніка, які паводле плана павінен выйсці з друку яшчэ ў гэтым годзе.

Пастаноўлена, што зборнік будзе мець наступныя раздзелы: а) гісторыя, б) фальклярыстыка і літаратуразнаўства, в) мовазнаўства і дыялекталогія, г) геаграфія і эканомія, д) этнаграфія і сацыялогія, е) рэцэнзіі, хроніка, інфармацыі.

Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі дзве працы: Барыса Нікіцюка — «Лясныя забастоўкі ў Сакольскім і Беластоцкім паветах» і Андрэя Барвіюка — «Дэмаграфічныя кансеквенцыі індустрыялізацыі Беласточчыны ў 1950—1960 г.г.» Пасля шырокай дыскусіі члены навуковага гуртка дайшлі да вываду, што аўтары ўспомненых прац павінны ўнесці да іх шэраг паправак.

Каб лепш, больш планава і праграмна праходзіла праца навуковага гуртка, з гэтай мэтай было паклікана трохасабовае кіраўніцтва ў складзе: Уладзімір Юзвюк, Аляксандр Баршчэўскі і Уладзімір Паўлючук.

### У ГАЙНАЎСКІМ АДДЗЕЛЕ

10 лютага адбылося спатканне гарадскога гуртка БГКТ у Гайнаўцы з праўленнем аддзела. На ім выступіў са сваім рэпертуарам мастацкі калектыў гэтага гуртка. Прысутны на спатканні кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума павятовай рады, нарадовай Станіслаў Кастэра заакцэптаваў рэпертуар калектыву і выдаў дазвол на яго выезды і выступленні.

✲

На Гайнаўшчыне адбываюцца зараз урачыстасці прысвечаныя 25-годдзю ППР. У іх арганізацыі бярэ актыўны ўдзел актыў Гайнаўскага аддзела БГКТ.

м.х.

### ГАСПАДАРСКАЯ РАЗМОВА

За акном стаяла цемра зімовага вечара і безупынна ішоў халодны дождж перамешаны з ліпкім снегам. У такую непагадзь добры гаспадар, як кажуць, нават сабакі на двор не выпусціць.

Дык сядзелі мы за гарачым чайком і вялі гаспадарскую размову. Гаварыў Караль Марцiняк — кіраўнік прышкольнай дзяржаўнай гаспадаркі чартаеўскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Я слухаў і запісваў. Гаспадарка ахоплівае 250 гектараў зямлі.

— Памятаеце, якая дурная слава ішла ў народзе пра дзяржаўныя сельскія гаспадаркі, — пачаў сябра Марціняк. — А ў нас па-суседску ўсё яшчэ

## ПРА СЛАВУ І НЯСЛАВУ



сядзеў даваенны ўласнік чартаеўскага маёнтку. «Дайце гэтую зямлю яму назад, — шапталі людзі, — пабачыце што вам пакажа!» Сталася аднак інакш. Былы памешчык часам прыходзіць паглядзець на новыя парадкі ў даўнейшым яго маёнтку, і вочы ад зайздрасці яму на лоб вылазяць.

**— Чаму?**

— Кароўнік у нас адборны. Усе каровы чырвонай дацкай пароды. Кожная з іх дае ў сярэднім да 4-х з палавінай тысяч літраў малака ў год, а тлушч гэтага малака перавышае 4%.

— Гэта ж рэкордныя паказальнікі! — усклікнуў я. — Як Вы дабіліся іх?

— Карова з'яўляецца жывой фабрыкай. Каб выпусціць нейкую машыну, трэба даставіць на завод адпаведную колькасць сыравіны. Так і з жывёлай. Трэба яе добра накарміць, каб даставіць ёй дастатковую колькасць сыравіны для падтрымкі яе працаздольнасці і для прадукцыі малака.

**— Як тады вы корміце сваіх кароў?**

— Кожная наша красуля, як правіла, атрымоўвае ў дзень: 5 кг высокаякаснай сумесі са штучнага канцэнтрату «Б» і пшанічнага вотруб'я, 8 кг канюшыны, 20 кг кармавых буракоў і 15 кг сіласу.

**— А што рабіць, калі няма ў гаспадара канюшыны ці пшанічнага вотруб'я або сіласу ці буракоў?**

— Канюшыну можна падмяніць люцэрнай, або добрым высокаякасным сенам, замест пшанічнага вотруб'я, можна даць нейкае іншае, на месца буракоў можна падсыпаць брукву. Але сіласу не раю нічым падмяняць. Я не ўяўляю сабе сучаснага гаспадара без сіласу.

**— А што яшчэ захацелі б вы пераказаць сялянам са свайго гаспадарскага вопыту?**

— Хацеў бы параіць, каб не шкадавалі грошай на штучнае ўгнаенне. Мы ўжо цяпер даем на адзін гектар ворыва звыш 100 кілаграмаў «NPK» Незадоўга павялічым гэтую дозу да 220 кг. Трэба аднак памятаць пра адпаведныя прапорцыі «N», «P» і «K». Калі высяваеш 1 цэнтнер азоту і 1 калію, то фосфару толькі 0,80. Пра гной таксама нельга забываць. Мы ў сябе стараемся, каб хаця праз 4 гады кожны ўчастак зямлі атрымаў поўнае ўгнаенне натуральным гноем. Гэта вельмі важнае.

**— Якога ж тады плёну вы дабіваецеся?**

— Збожжавыя культуры даюць нам да 25-ці цэнтнераў з гектара.

**— Вашая гаспадарка лічыцца пры-**

(Працяг на стар. 5)

## Новыя вершы

Ты ва мне даспяваеш як яблык
ды не ў садзе адлеглым у полі
даспяваеш у болю
верш расцвітае калінай
ідуць з-пад яго каляіны
у розныя стораны свету
бягуць у сцяжыны дарогі
і ў трывогу
у завеі у навальніцы
бягуць каб ізноў вярнуцца
з воннай пахучай крыніцай
з песнямі сіняга бору
каб у грудзі уліцца
і выліцца у верша амфору.

Алесь Барскі



## У Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

8 лютага г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Сталі тры пытанні: інфармацыя аб працы рэдакцыі «Нівы», якую падрыхтаваў член Прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, інфармацыя аб арганізацыйнай працы нацыянальных таварыстваў, якую зрабіў кіраўнік аддзела грамадскіх спраў Упраўлення ўнутраных спраў Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку Мікалай Куц і абмеркаванне плану працы Камісіі на паўгоддзе, праект якога прадставіў сакратар Камісіі Уладзімір Сянкевіч.

Найбольш увагі Камісія прысвяціла «Ніве». Між іншым, як аўтар ацэнкі, так і члены Камісіі, падкрэслілі станоўчую эвалюцыю нашага тыднёвіка ў апошнім часе. Звярнулі яны таксама ўвагу на недахопы ў працы рэдакцыі.

У дзейнасці ГП БГКТ дакладчык найвышэй ацаніў лектарскую і выдавецкую галіны, а з аддзелаў на першым месцы паставіў Гайнаўку.

(рл)



ПОЎНА СНЕГУ. Фота Ул. Паўлючук



# МУЗЕЙ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДРУЖБЫ

Знаходзіцца ён у раённым горадзе Навазыбкаў на Браншчыне. Быў заснаваны зусім стыхійна. У Навазыбкаве памяшчаецца спецыяльны дзіцячы дом імя Зоі Космадзем'янскай. І вось двух выхаванкаў гэтага дома, Е. Тормаз і С. Кугельман, у 1962 годзе пачалі збіраць розныя дакументы і матэрыялы ілюструючыя барацьбу і супраціўленне народаў Еўропы нямецкаму фашызму ў гадах Вялікай Айчыннай вайны. Яны наладзілі багатую перапіску з рознымі савецкімі і замежнымі арганізацыямі, навуковымі ўстановамі і прыватнымі асобамі. За мінулыя гады ў скромнай святліцы спецдзетдома сабралося шмат цэнных дакументаў і экспанатаў.

У час маёй нядаўняй пабыўкі ў Савецкім Саюзе тав. С. Кугельман запрасіў мяне ў гэты музей. Мог я тады пераканацца, што выхаванцы спецыяльнага дзіцячага дома імя Зоі Космадзем'янскай сапраўды шмат чаго накапілі ў сваім музеі. Асабліва цэнныя дакументы атрымалі яны ад Антыфашысцкага камітэта ГДР, ад Інстытута яўрэйскай гісторыі ў Варшаве і ад Цэнтральнага Камітэта СЭПГ.

Мясцовыя ўлады высока ацанілі каштоўную ініцыятыву космадзем'янцаў. Навазыбкаўскі гарвыканком у апошніх днях мінулага года прыняў рашэнне аб арганізацыі ў горадзе Навазыбкаве **Дзяржаўнага музея інтэрнацыянальнай дружбы імя Эрнеста Тэльмана.** Музею выдзелена аддзельнае памяшканне і ўстаноўлена адміністрацыю. Дырэктарам музея стаў адзін з яго заснавальнікаў, тав. Е. Тормаз.

Музей інтэрнацыянальнай дружбы імя Э. Тэльмана збірае ўсе дакументы, экспанаты і ўспаміны, якія ілюструюць братэрства і супрацоўніцтва ў барацьбе з фашыстамі. Вядома, што на Беласточчыне дзейнічалі рускія і польскія партызанскія атрады, у фашысцкіх лагерах многія палякі і беларусы сутыкаліся з немцамі, французамі і другімі. На дарогах вайны неаднойчы здаралася, што нашыя людзі дапамагалі савецкім байцам і ваеннапалонным. Усё гэта вельмі цікавіць навазыбкаўскі музей. Лісты трэба накіроўваць па адрасу:

СССР, Брянская обл. г. Новозыбков, ул. Ленина 78, Музей Интернациональной дружбы имени Э. Тельмана.

**В. Рудчык**

# ПРАСТУДА... ЯК АД ЯЕ ЗАСЦЕРАГЧЫ ДЗІЦЯ?

Хто не ведае, што такое прастуда? Вынеслі спацелае дзіця ў халоднае надвор'е на вуліцу, вось і прастудзілася. Ці ж не ясна? Аднак яснасць тут толькі ўяўная. Справа ў тым, што хвароба, якая развіваецца пад уплывам прастуды, выклікаецца не самай прастудай, а мікробамі і вірусамі. Прастуда толькі паніжае ахоўныя сілы арганізма.

Да прастудных захворванняў у дзяцей ранняга ўзросту мы адносім катары верхніх дыхальных шляхоў, бранхіты, ларынгіты, ангіны, запаленне лёгкіх і іншыя захворванні.

Усім добра вядома, што дзеці хварэюць значна часцей за дарослых, і чым меншае дзіця, тым больш цяжкія і небяспечныя для яго многія хваробы. Прычына гэтай з'явы ў тым, што арганізм дзіцяці знаходзіцца ў перыядзе росту і паступовага ўдасканалення органаў і тканак.

Чым меншае дзіця, тым яно хутчэй расце, чым менш дасканалыя яго органы і тканкі, тым менш здольны дзіцячы арганізм супраціўляцца розным знешнім шкодным уплывам. Да ліку іх трэба аднесці вельмі высокую і вельмі нізкую тэмпературу паветра, рэзкія ваганні яе, вільгаць, гразь, пыл.

Пад уплывам уздзеяння холаду парушаецца нармальны стан слізістых абалонак верхніх дыхальных шляхоў — развіваецца запаленчы стан іх. Гэта стварае спрыяльныя ўмовы для размнажэння бактэрый, якія знаходзяцца ў поласці рота і носа здаровага дзіцяці. Лёгкі насмарк вядзе да закупоркі насавых хадоў: дзіця вымушана дыхаць ротам, пры гэтым у дыхальныя шляхі і ў лёгкія трапляе халоднае, неачышчанае ад пылу і мікробаў паветра. Мікробы і вірусы ўкараняюцца ў слізістыя абалонкі верхніх дыхальных шляхоў і выклікаюць розныя захворванні.

Многія бацькі прыйшоўшы на прыём да ўрача, здзіўляюцца: «У пакоі вельмі цёпла, скразнякоў няма, сын (або дачка) спіць пад ватавай коўдрай — і раптам — запаленне. Адкуль?» Магчымасцей і ў гэтым выпадку шмат, відаць, нават больш, чым у тых дзяцей, якія бываюць на вуліцы, і дзе дома тэмпература ўмераная. Вельмі шкодна і небяспечна з пункту гледжання прастуды быць потным. Пры выпарэнні нават у гарачым пакоі цела значна ахалоджваецца. А мікробы, якіх і наогул шмат у паветры, у цяпле размнажаюцца значна хутчэй.

А як жа засцерагчы дзіця ад прастудных захворванняў? Бяда ў тым, што многія бацькі лічаць самай надзейнай аховай ад прастуды хутанне. Яны стараюцца не выносіць дзяцей на вуліцу ў дрэннае надвор'е, не адчыняць у іх прысутнасці форткі, берагчы іх ад скразняку. У такіх умовах арганізм, натуральна, пачынае ўсё горш прыстасоўвацца да немінучых змен тэмпературы, ахаладжэння. Таму асноўнымі мерамі барацьбы з прастуднымі захворваннямі ў дзяцей ранняга ўзросту павінны быць меры, накіраваныя на павышэнне ахоўных сіл арганізма. Правільнае кармленне, разумны здаровы рэжым з шырокім выкарыстаннем сонца, паветра і вады — гэтых найбольш даступных і эфектыўных сродкаў загартоўвання.



Праблема таннай і смачнай ежы вострa стаіць ва ўсім свеце. Як дапамагчы людзям вырашыць гэту праблему? Гэтым пытаннем займаўся XIII Сусветны кангрэс па птушкаводству, які ў мінулым годзе адбыўся ў Кіеве. Эмблемай кангрэса стала залацістая курыца над зямной куляй. І гэта нездарма. Успомнім, што далёкі продак цяперашніх легорнаў — банкіеўская курыца была размерам як звычайны голуб і нясла ад сілы дзесятак яек у год. Чалавек так змяніў яе прыроду, што некаторыя нясушкі даюць цяпер звыш 360 яек за год — сапраўды «залатыя» куры. Шырока вядома, што птушынае мяса больш пажыўное, чым мяса жывёлы. Але нешматлікія ведаюць, што і абыходзіцца яно куды танней: на кілаграм прыбаўлення ў вазе вялікай рагатай жывёлы трэба 8—9 кармавых адзінак, а на кілаграм прыбаўлення на вазе птушкі (брайлераў) дастаткова 2—4. У СССР на Ягацінскай птушкафабрыцы кожная качка (маецца на ўвазе вывадак з яе яек) прыносіць 240 кілаграмаў мяса. Глебаўская птушкафабрыка (Падмаскоўе) ў мінулым годзе ад 700 тысяч курыц атрымала 124 мільёны яек. Бярозаўская птушкафабрыка дае жыхарам Брацка 3 мільёны брайлераў у год. Толькі адзін інкубатар венгерскага аб'яднання «Комплекс» за адным разам «ажыўляе» 10 тысяч яек. Наогул птушкі паспяхова авалодваюць дасягненнямі навукі і тэхнікі. Сучасны птушнік — гэта цэлы завод, на якім ёсць месца нават электронным машынам. 300 фірмаў з 22 краін свету паказалі на выстаўцы, якая адкрылася ў дні кангрэса, найлепшыя свае дасягненні. Новым прэзідэнтам Сусветнай асацыяцыі птушкаводаў кангрэс выбраў савецкага вучонага прафесара Э. Пенянжкевіча.



# ВАЖНАЯ ПТУШКА

XIII сусветны кангрэс па птушкагадоўлі сабраў незвычайны лік дэлегатаў — звыш 3 тысяч асоб. Дзве з паловай тысячы прыехалі з-за граніцы. На верхнім здымку — адкрыццё кангрэса, на ніжнім — выстаўка (адна з машын для сарціроўкі яек).



Дакументальная аповесць

# «F-20» просіць дапамогі

**Неўзабаве салдаты ўнеслі ў кабінет кінапраектар «АП-12», якім звычайна карыстаюцца для дэманстрацыі вузкаплёначных фільмаў. У адну мінуту вокны былі завешаны.**

**— Прабачце, што тут не будзе абстаноўкі кіназалы, — сказаў Вага. — Але сцяны хопіць, каб разабрацца ў некаторых цікавых дэталях.**

**Пачалася дэманстрацыя. І Вольскі, і Качмарэк, затаіўшы дыханне, сачылі за кадрамі. Некаторыя з іх былі зацемнены. Няцяжка было здагадацца, што здымкі зроблены аматарам.**

**Калі дэманстрацыя закончылася, Вага паглядзеў на Качмарэка. Качмарэк пасмейваўся, мармытаў нешта пад нос, але вочы не маглі ўтаіць трывогу.**

**«Спакой, у што б там ні стала захаваць спакой», — гаварыў ён сабе ў думках.**

**Вольскі быў не менш здзіўлены. З затоенай нецярплівасцю ён сачыў за паводзінамі паручыка. Усё, што рабіў Вага, супярэчыла логіцы і разумнай рызыцы.**

**— Хопіць? — першым загаварыў Вага. — Пытаюся, ці хопіць? — паўтарыў ён.**

**— Папяросу, — папрасіў Качмарэк.**

**— Добра. Вы будзеце цяпер гаварыць праўду?**

**— Папяросу, — паўтарыў Качмарэк.**

**Вага падышоў да Качмарэка, зняў з яго рукі наручнікі і працягнуў папяросу. Качмарэк прагна зацягнуўся. Пакрысе ім авалодаў спакой. Гэты «белы пёс» (так называў Качмарэк салдат вайсковай унутранай службы) неасцярожна адкрыў перад ім усе козыры, якія не складалі яшчэ «бетонных» доказаў, што сведчылі б супраць яго. Таму ён вырашыў спрытна гэта выкарыстаць.**

**— Я слухаю вас, — настойваў Вага, абураны доўгім маўчаннем Качмарэка.**

**— Так, добрая работа, — сказаў Качмарэк. — Але на гэтым вы мяне не злавіце, — нечакана дадаў ён.**

**— Як я павінен гэта разумець?**

**— Вельмі проста, — спакойна адказаў Качмарэк, — фільм ні аб чым не гаворыць. На ім ясна відаць, як я разглядаю знойдзеную мною цікавую цацку. А тое, што я заглядваў унутр футарала, я не адмаўляю. Я ў гэтым не бачу нічога дрэннага. Разглядаць рэчы ніякі закон не забараняе, — дадаў ён.**

**— Наш закон забараняе праводзіць антыдзяржаўную работу, — усклікнуў Вага. — На кадрах ясна відаць, як вы перадаеце!**

**— Няпраўда, я толькі разглядаў.**

**— Перадавалі!**

**— Няпраўда. Гэта правакацыя!**

**— Паўторым праекцыю.**

**— Прашу, калі ласка! — Качмарэк абыякава пацiснуў плячыма.**

**Зноў унеслі апаратуру.**

**— Вы сцвярджаеце, што гэта не радыёперадача? — усклікнуў Вага, калі на сцяне з'явілася вядомая сцэна.**

**— Гэта толькі агляд, — упіраўся Качмарэк.**

**— А тут?**

**— Тут таксама. Ясна відаць, што я забаўляюся гэтым футлярам. Кожны гэта прызнае.**

**— Хопіць! — Вага перапыніў дэманстрацыю. — Не хочаце гаварыць? — спытаў ён строга.**

**Вага націснуў кнопку званка. У кабінет увайшлі два салдаты.**

**— Адпраўце яго пад арышт, — загадаў Вага.**

**Як толькі за салдатамі зачынілі дзверы, Вольскі сарваўся з месца і падышоў да Вагі.**

**— Ведаеце, што я вам скажу? — пачаў Вольскі прыглушаным голасам. — Ваш учынак не што іншае, як грэбаванне ўсякімі элементарнымі правіламі вядзення следства! Я не сумняваюся ў тым, што вы затрымалі агента, і гэта мяне радуе. Але вы прагаварыліся яму. Цяпер можаце грызці сабе локаць! Якім чынам вы яму дакажаце, што ён карыстаўся гэтым перадатчыкам у ва-**

# ТРЫБУНА чытачоў




ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву я на вёсцы. Маю 17 год. Не закончыла пачатковай школы, бо трэба было працаваць на гаспадарцы. Цяпер хацела б мець якую-небудзь прафесію. Нядаўна чула, што ў Беластоку праводзяцца курсы жаночага кравецтва. Таму прашу цябе, паінфармуй мяне, ці я магу там паступіць не маючы пачатковай школы?

Зіна з М.
Бельскі павет

ДАРАГАЯ ЗІНА!

На курсы кравецтва можаш быць прынята, бо гэта масавае шкаленне для жанчын, якія хочуць здабыць сабе гэтую прафесію для свайго асабістага ўжытку. Тут адукацыя не адыгрывае ролі. Курсы такія праводзяць між іншым, Гурток вясковых гаспадынь і Ліга жанчын. Калі ў тваёй вёсцы няма гэтых арганізацый, раю табе звярнуцца да інструктара Гуртка вясковых гаспадынь або Лігі жанчын у Бельску, бо яны займаюцца арганізаваннем такіх курсаў на вёсках. Там даведаешся, у якой вёсцы (дзе табе будзе найбліжэй) сарганізаваны такі курс. (КГВ у Бельску знаходзіцца пры Прэзідыум Пав. рады нар.).

Сэрцайка

Чытачы! Калі звяртаецеся да Сэрцайка за канкрэтнай парадай напр. аб школах ці курсах, і т.п. просім падаваць імя і прозвішча, а таксама свой дакладны адрас.

**Сэрцайка**

## ПРЫГАЖЭЮЦЬ СУХАВОЛЬЦЫ

Сухавольцы — адна з найпрыгажэй разбудаваных вёсак у Гайнаўскім павеце. Тут многа мураваных будынкаў. Да гэтага часу пабудавана іх 36. Кожны год будуецца каля чатырох, пяці дамоў. Гэта вельмі многа, як на вёску.

У Сухавольцах на высокім узроўні стаіць жывёлагадоўля. Кожны амаль гаспадар гадуе дзве ці тры каровы. На месяц за малако ў Сухавольцах атрымоўваецца 1.800 — 2.000 зл. Сухавольскія сенажаці адлеглыя на 15—20 км. Няма дзе пасвіць кароў. Кожны пасе на сваім участку. Гэта многа паніжае змесціва тлушчу ў малацэ. І менш атрымоўваецца літраў. На гэтым траціць, зразумела, гаспадар.

Апрача жывёлагадоўлі ў Сухавольцах многа кантрактуюць бульбы і лубіну. Аплочваецца кантрактаваць. Напрыклад, за адзін цэнтнер лубіну насенная цэнтраля плаціць 800 зл. І так, кожны год збіраюць людзі залатоўку да залатоўкі. Не шкадуюць працы. І з гэтых грошай будуюць дамы. Прыгожыя, мураваныя.

**Мацейка**
Гайнаўскі павет

**рожых мэтах? Ён гаворыць, што выпадкова знайшоў перадатчык — і гэта бадай, праўдападобна. А гэты фільм наогул не з'яўляецца дастатковым доказам для абвінавачання злачынцы. Паказаныя сцэны вельмі кароткія, невыразныя. А якім чынам удалося вам зазняць гэтыя сцэны?**

**Вага ўважліва слухаў Вольскага, у задуменнасці цёр падбародак і хадзіў па кабінеце з кутка ў куток. Нарэшце ён стаў ля акна і павярнуўся да Вольскага.**

**— Гэта быў адзіны выхад, стараючыся надаць свайму голасу пераканаўчыя інтанацыі, сказаў Вага. — Я разлічваў на тое, што шпіён, ведаючы, што доказы яго вінаватасці ў нашых руках, зробіць памылку. І, уласна, гэта памылка павінна была яго дэмаскіраваць. Якая памылка, — цяжка было прадбачыць. Ва ўсякім разе, гэты фільм зрабіў на яго ашаламляльнае ўражанне. Урэшце, ён, бадай, пачне гаварыць...**

**Вольскі адмоўна пакруціў галавой.**

**— Я ў гэтым не ўпэўнены, — адказаў ён. — Гэта хітрая бестыя, нялёгка нам дасца яго прызнанне.**

**(Працяг будзе)**

## ВАРТА ЎЗЯЦЬ ПРЫКЛАД

Узімку кожнага года школы арганізуюць сваім вучням навагоднія ёлкі. Дзеці чакаюць на іх з вялікай нецярплівасцю. Гэта зразумела, бо кожны вучань хоча паказацца перад бацькамі і суседзямі сваімі ўмеласцямі ў спеве, дэкламаванні вершаў, у танцах, а самае важнае — атрымаць навагодні падарунак. У гэтых урачыстасцях апрача школьнай моладзі бяруць удзел і дзеці меншага ўзросту. Аднак не ўсе з іх вяртаюцца дамоў задаволены — не ўсе атрымоўваюць падарункі. Многа бацькоў не разумее, што і такім дзецям найбольшай атракцыяй з'яўляецца атрыманне падарунка ад Дзеда Мароза, супольна з школьнікамі, і таму не ўсе бацькі купляюць сваім малышам дробныя падарункі, а калі хто купляе, то ўручае іх у сваёй хаце. З цікавай ініцыятывай у гэтай галіне выступіў Гурток вясковых гаспадынь з вёскі Нурэц, Бельскага павета. Члены гэтага гуртка пад кіраўніцтвам Аляксандры Юрчук сабралі грашовую складчыну, за якую зрабілі падарункі дзецям, якія не ходзяць у школу і ўручылі іх малышам у час навагодняй ёлкі ў школе. Малышы вельмі ўцешыліся і былі ўдзячны сваім мамам за неспадзянку. Думаю, што ініцыятыву нурэцкіх гаспадынь падтрымаюць і іншыя гурткі вясковых гаспадынь. Зразумела, у гэтым годзе ўжо запозна супольна рабіць падарункі дзецям, бо напэўна ўжо ва ўсіх школах адбыліся навагоднія ёлкі, але варта памятаць аб гэтым на будучы год.

(Ф)

## САМАДЗЕЙНІКІ

19 студзеня пад вечар каля святліцы ў Дубічах Царкоўных было людна і шумна. Усе ціснуліся да дзвярэй, дзе прадаваліся білеты на выступленне мясцовых самадзейнікаў. Зала была запоўнена. Выступленні пачаліся п'есай «Гарадскія госці». Самадзейныя артысты, нягледзячы на тое, што моцна хваляваліся, нядрэнна выступілі.

Пасля пастаноўкі спявала харавая група і выступалі дэкламатары. Кожны нумар узнагароджваўся доўгімі воплескамі. Праграма працягвалася 2 гадзіны.

Арганізатарам вечара быў мясцовы гурток БГКТ, на чале якога стаіць кіраўнік школы — Марыся Жменька. Зробленыя грошы будуць прызначаны на пакупку касцюмаў самадзейнікам гуртка БГКТ.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## КАРЫСНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Нядаўна з вельмі карыснай ініцыятывай выступіў гурток БГКТ у Альхоўцы (Гайнаўскі павет). Гурток пастанавіў прычыніцца да распаўсюджвання сярод вясковага насельніцтва беларускіх календароў на 1967 год, выдадзеных праз нашае таварыства.

Паасобныя члены заняліся гэтай справай і пачалі заахвочваць сваіх аднавяскоўцаў да набыцця беларускага календара.

І вось такім чынам, дзякуючы намаганням гуртка БГКТ, беларускі каляндар знайшоўся амаль у кожнай альхоўскай хаце.

Варта, каб падумалі і заняліся гэтым таксама і другія гурткі БГКТ у нашых беларускіх вёсках.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## НЕКАЛЬКІ ВЕСТАК

У мінулым годзе выкарыстана ўсяго палову грошай, прызначаных на пашырэнне сельскагаспадарчай асветы (ся)

## ХВАРОБЫ

У мястэчку Сухаволя, Дуброўскага павета, праведзена лекарскі агляд 2.873 асоб. У 588 асоб сцверджана хваробы дыхальных дарог, у 375 асоб сцверджана хваробы страўніка, у 331 асобы сцверджана нервовыя хваробы. Шмат асоб мае хворыя вушы і горла.

Дарэчы зазначыць, што вынікі сухавольскіх доследаў наогул пакрываюцца з заўважаным станам здароўя ўсяго насельніцтва гэтых аколіц. І, як сцвярджаюць працаўнікі Ваяводскага аддзела аховы здароўя ў Беластоку, стан здароўя насельніцтва гэтых аколіц намнога горшы, чым сярэдні ў Польшчы.

(с.я.)

## ЗІМА НА ДАРОГАХ

Небяспечна зімой на дарогах. Абледзянеўшы снег проста як шкло, пагражае калецтвам, а нават смерцю. З гэтай стыхіяй змагаюцца нашыя дарожныя працаўнікі — сторажы. На шашы Бельск — Нарва ўжо каля дваццаці год працуе сторажам Піліп Трафімюк з калёніі Трашчоткі. Яго круглы год штодзень відаць пры сваёй працы. Праяўленне яго штодзённай заботы, праяўленне ўласных помыслаў заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Загатоўленым летам пяском і жвірам ён кожны дзень пасыпае павароты, узгоркі і месцы прыпынкаў пэкаэсаў. Каб аблегчыць працу ў абслужванні сваёй не кароткай трасы, дапасаваў ён да саначак скрынку да рассыпання пяску. Праца Піліпа Трафімюка ўсім патрэбная.

Тэкст і фота
**К. С.**
Катлы



## ШКОЛА І ЛЮДЗІ

Ужо шосты год як Язэп Навіцкі з'яўляецца кіраўніком школы ў вёсцы Скупава. За гэты час многа ў школе палепшылася. Пляц навокал школы дзякуючы яго намаганням прыгожа агароджаны драцяной сеткай. Пасаджаны фруктовыя дрэвы. Заслугай кіраўніка з'яўляецца і тое, што школа мае свой тэлевізар за 12 тысяч злотых. А ў зімовыя халодныя месяцы дзеці маюць гарачую каву і булачкі. На навагодняй ёлцы была пастаўлена п'еса Алеся Барскага «Гарадскія госці». Гэта ён падрыхтаваў старшакласнікаў, якія добра справіліся са сваімі ролямі. Кіраўніка школы не толькі цікавяць школьныя справы, але і вясковыя. Вось прыклад: замяло снегам дарогу, якая вядзе ад шашы да вёскі. Ніякія аўтамашыны не маглі праехаць да сяла. І калі жыхарка вёскі зламала нагу, то карэтка хуткай дапамогі не магла даехаць. Дзеці і старэйшыя пхалі яе праз гурбу снегу. У нядзелю 29 студзеня кіраўнік школы загадаў вучням старшых класаў, каб прышлі з рыдлёўкамі ачышчаць дарогу. Праз вучняў прасіў таксама і жыхараў вёскі, каб прышлі адкідаць снег. І што аказалася. Толькі солтыс і яшчэ чатырох аднавяскоўцаў прышлі на чын, памагаючы вучням і кіраўніку пры ачышчанні дарогі. А Скупава лічыць больш як 130 гаспадароў.

Чытач са Скупава

## 22 ГАДЫ СОЛТЫСАМ



20-га лютага Міхась Фалькоўскі з вёскі Грабавец, што на Бельшчыне, адзначыў 22-ую гадавіну сваёй ганаровай функцыі. Гэта адзіны солтыс у павеце, які ад самага вызвалення нашай краіны, без перапынку з'яўляецца солтысам сваёй вёскі. Сведчыць гэта аб аўтарытэце яго сярод аднавяскоўцаў. Ён сапраўдны кіраўнік вёскі. Дбае, як ніхто, пра развіццё Грабаўца. Міхась Фалькоўскі з'яўляецца адначасова сакратаром партыйнай арганізацыі.

На здымку: Міхась Фалькоўскі.

Бельск
Тэкст і фота П. З.

# КІНО

**Праграма**
**на 28.II. — 5.III. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„W krainie dziwnych zwierząt" (radz.), 28. II — 1. III; „Grek Zorba" (USA), 2 — 3. III; „Pierwszy dzień wolności" (pol.), 4—5. III.

**Кляшчэлі**
„Królewskie dzieci" (NRD), 28. II. — 1. III. „Diabelska przepaść" (czeski), 2—3. III.; „Złoto" (polski), 4—5. III.

**Дубіны**
„Spacer po linie" (angl.), „Trzy kroki po ziemi" (polski), 4—5. III.

**Нарва**
„Przybycie tytanów" (włoski), „Zdradzona ziemia" (radz.), 28. II. — 5. III.

**Нараўка**
„Dwadzieścia godzin" (węgierski), „Elektra" (franc.), 28. II. — 5. III.

**Чыжы**
„Pieczone gołąbki" (polski), „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 28. II. — 5. III.

**Дубічы Царкоўныя**
„Najdroższa" (radz.), „Operacja Y" (radz.), 28. II. — 5. III

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Wierność" (radz.), „Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 28. II. — 5. III.

**Орля**
„Samson" (polski), „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 28. II. — 5. III.

**Райск**
„Urocza gospodyni" (USA), „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 28. II. — 5. III.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), „Piekło i niebo" (polski), 28. II. — 3. III.

**Міхалова**
„Przygody Machausena" (czeski), 28. II. — 1. III. „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 2—3. III. „Arcylokaj" (franc.), 4. — 5. III.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Majowe gwiazdy" (czeski), 28. II. — 1. III. „Strachy zamku Spessart" (NRF), 2—3. III. „O carski tron" (NRD), 4—5.

**Мілейчыцы**
„Jadą goście" (polski), 28. II. 1 III.; „Wzgórze" (angl.), 2—3. III.; „Gdzie jest trzeci król" (polski), 4—5.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Biała pani" (czeski), 28. II. — 1.III.; „Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 2—3. III. „Piekło i niebo" (polski), 4—5.

**Шудзялава**
„Testament uczonego" (radz.), „Giuseppe w Warszawie" (pol.), 28. II. — 5. III.

**Сідра**
„Przemytnik z Piemontu" (franc.), 28. II. — 1. III. „Samotna" (radz.), 2—3. III.; „Potem nastąpi cisza" (polski), 4—5. III.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.944 Błtk M-3

# Крама ў рэзгах

У вёсцы Дубна сустрэла я на гуліцы солтыса Паўла Іванюка. Ішоў хутка падтрасаючы кажухам.

— Скажыце, дзе знайсці вашу краму, — спытала я яго, — бо мне здаецца, што яшчэ ў мінулым годзе была яна недзе ў гэтым месцы?

Солтыс глянуў на мяне нейк дзіўна, усміхнуўся і, папраўляючы шапку, сказаў:

— А добрыя ногі маеце, цётачко?

— Яшчэ з вамі зыдуся, — адрэзала я.

— Ну то хадземце, — адказаў солтыс. — Я якраз іду ў краму. А што вы хочаце купіць?

— Цукеркаў дзецям.

— А я думаў, што чагось мацнейшага. Мо' антыгрыпінавых капляў.

— Вы жартуеце, а ў мяне часу мала.

— А ў каго яго многа, — скрывіўся солтыс. — Вышлі ў хаце запалкі і цяшы чалавеча, у Нурэц. Два кіламетры. Або ў Боцькі. Чатыры кіламетры. Выбірай, як каму выгадней. З якога канца вёскі куды бліжэй.

— Але ж у мінулым годзе крама была тут.

— Добрую памяць маеце. Мы яе яшчэ ў 1940 годзе пабудавалі. Драўляны будынак, але перапрывалі вайну і служыў людзям.

— А чаму не служыць?

— Бо працаўнікам ГРН у Нурцу трэба было ўзяць на этат чалавека, каб штодзень бегаў у Дубна па антыгрыпінавыя кроплі з манапалёвай наклейкай.

Мой сваяк па дзеду, старшыня ГРН у Нурцу, Сашок Іванюк, заўсёды цвярдзіў прэзасам ГС-у ў Боцьках, што гаспадарчая эканомія вельмі многа мае супольнага з гастраноміяй. І кожны раз паклікаўся на распараджэнне Міністэрства гандлю, што крамы з манапалёвымі кроплямі павінны быць толькі ў тых вёсках, у якіх знаходзяцца грамадскія рады. Але павет не пазволіў прыняць на этат чалавека. Зблізіся на розум і пастанавілі пабудаваць новую краму. І так паехала ад нас з Дубна крама разам з манапалёвымі кроплямі і з нашай прадаўшчыцай.

— А што на гэта гавораць прэзасы ГС-у ў Боцьках?

— Альшэўскі раскладае рукі, Смактуновіч круціць галавою, а Юзэфовіч варушыць губамі. Нічога не гавораць. Быццам зусім не ведаюць, што ў Нурцу 60 гаспадароў, а ў Дубне 120. Такая самая справа і ў Краснавёсцы. Прэзасам ад нашага хаджэння ногі не баляць. Гавораць, што маюць свае ўласныя планы. У завейку не хочацца высаджваць носа з распаранай гасподы. А паганяць іх няма каму. Працаўнікі ПЗГС-у да Нурца ў краму хадзіць не патрабуюць.

— Добры вечар! — раздаўся за намі дзявочы голас, што солтыс з пералёку аж падскочыў.

— От, маеце, да чаго дагаварыліся, — крыкнуў ён! — Ужо вяртаецца дахаты наша прадаўшчыца. О, самі бачыце, Ірка Гайко нясе за плячыма ў рэзгах цэлую вясковую краму. Але ці ж гэтага тавару на ўсіх хопіць? Пачакай, Ірка, запалкі маеш? — кінуўся солтыс да прадаўшчыцы, а я падумала: якую дабрату запланавалі прэзасы Боцькаўскага ГС-у для людзей гэтай вёскі. Ад чужой бяды нікому галава не баліць.

**Цёта Мальвіна**

* Рэзгі — два ў дугу выгнутыя каблукі, пераплеценыя шнураванай сеткай. Служаць да нашэння на плячах каровам сена ці саломы.

# НІЎКА



— На вашым месцы я больш займалася б спортам: шчуплыя жывуць даўжэй.

## ПЕРАД АПЕРАЦЫЯЙ

У Нью-Йоркскай бальніцы адбывалася пяціхвілінутка. Адзін з дактароў запытаў:

— Ну, як, панове, будзем рабіць хвораму Джону аперацыю, ці хай жыве яшчэ?

**В. Ляшэвіч**

## НЕ ТАЯ КАНДЫДАТУРА

**На выбарах каза**
**Ні «супраць» і ні «за»**
**была, —**
**Абралі не яе — Казла.**

**Павел Шыбут**

## НАПЕРАКОР ЗАКОНУ ПРЫРОДЫ

Сабралі зайцы нараду і вынеслі рашэнне: скасаваць пасаду ваўка. Скасавалі. Але трэба ж яго працаўладкаваць. Назначылі лісой... І больш ніколі не збіралі нарад.

Мараль: нічога ў прыродзе не знікае бясследна, акрамя зайцаў.

## САКРЭТ

— Іх заручыны яшчэ ўсё трымаюцца ў сакрэце?

— Так усе гавораць.

## СКУПЫ МУЖ

— Ну і скупы ж мой муж!

— А што?

— Дык як жа ж... Учора, калі ён вярнуўся ўночы, знайшла я ў яго кішэні падарунак: жаночую панчоху, але толькі адну, ды і тую паношаную.

## ГЛУХАЯ НА СПОВЕДЗІ

— Чым грашна?

— У новай спадніцы прыйшла.

— Я пытаюся, чым грашыла?

— Была вялікая, дык перашыла...

— Глухая цяцера!..

— Ну, няма як цяпера, дык заўтра прыйду.

## ЗАДАВОЛІЎСЯ

Суддзя пытаецца ў сведкі, ці чуў ён, як абвінавачаны лаяў пана.

— А як жа, пане суддзя, чуў.

— Дык раскажы, як ты чуў.

— Калі сорамна, пане суддзя.

— Нічога, кажы, бо гэта абавязкова патрэбна для справы.

— Калі так, дык слухайце, пане суддзя. Ен лаяўся «ты дурань», пане суддзя, «ты быдла рагатае», пане суддзя, «ты ашуканец», пане суддзя, ты...

— До, до, до! Хопіць, больш не трэба.

## ТАКАЯ САМАЯ

— Як ваша хвароба?

— А бадай яе ліха! Вельмі ўпартая!

— А як ваша жонка?

— Такая самая, пане доктар!



Усё людское нам не чужое.



Без слоў.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Па просьбе Яўгеніі Буйко і яе сябровак і сяброў з вёскі Гарбары, Беластоцкага павета, і Галіны Міруць і яе аднавяскоўцаў з вёскі Бандары, Беластоцкага павета, змяшчаем песню В. Шведа:**

# Беласточчына

**Беласточчына, зямелька родная,**
**Жывеш заўсёды ты ў глыбі маіх грудзей.**
**Мясціны не сустрэў у жыцці ніводнае,**
**Якая б мне была хоць крышку даражэй.**

**Вось родны краявід, палоскі вузкія,**
**Якім дробніць люд вясковы з года ў год;**
**Сярод палёў пасёлкі беларускія,**
**Дзе ад вякоў жыве мой дарагі народ.**

**Там сёла, як грыбок, хатка вясковая,**
**Дзе крокі першыя ў жыцці сваім рабіў.**
**Дзе ад бацькоў вучыўся роднай мовы я**
**Таму ніколі мовы гэтай не забыў.**

**На Беласточчыне пражыў я маладосць,**
**А найважнейшае — я нарадзіўся тут.**
**Найдаражэйшаю таму была і ёсць**
**Мне Беласточчына, мой родны, мілы кут.**

## ЗАГРАНІЧНЫ ГУМАР

# Курёзы

## НЕЗВЫЧАЙНЫ РАМОНТ

Антоніо Пічырыла, неапалітанскі майстар па рамонту кузаваў машын, і пяць яго памочнікаў трапілі ў турму за даволі незвычайны метад рамонту. Калі чый-небудзь аўтамабіль пападаў у аварыю, Пічырыла і К° браліся яго неадкладна і класна адрамантаваць, — вядома, за павышаную плату. Сябры Антоніо адразу ж накіроўваліся ў горад, знаходзілі аўтамабіль такой жа канструкцыі і колеру, кралі яго і праз некалькі гадзін перадавалі спраўную машыну чалавеку, чый лімузін яшчэ нядаўна быў паламаны.



## МОЖНА І ТАК

Свайго роду сенсацыяй у бразільскім горадзе Тэрэсаполіс быў шлюб папулярнага ліліпута Жазэ Мар'я Манзо з вельмі прыгожаю Рэгінаю Гамез. У сувязі з агромным зацікаўленнем людзей, цырымонію шлюбу перадавалі па тэлебачанню. У канцы зроблена пралом у традыцыі: гэта маладая пераступіла парог новай кватэры з каханым на руках.

(а-ліў)




Нават калі заяц хоча быць ваўком, відаць, што ён заяц.